# ЦАРКВА І НАРОД

Беларуская Праваслаўная Часопісь



№ 1 (2).

Вільня 1933 г.

# Царква і Народ

Беларуская Праваслаўная Часопісь.

| | |
|---|---|
| Адрас Рэд Вільня, вул. Баровая 7—1, Адміністрацыі вул. Завальная 6 кв.10 Адміністр. адчынена ад 10 да 12 р. | Падпіска на год 2 зал. Цана асоб. нум. 20 гр. |

Год II. Вільня, 15 Лютага 1933 г. № 1 (2)




## Пастанова Сьв. Сыноду.

У кастрычніку мін. г. адбылося ў Варшаве паседжаньне Сьв. Сыноду. Між іншымі справамі, было там разгледжана і пытаньне спосабаў навучаньня праваслаўных дзяцей Закону Божаму. І па гэтаму пытаньню вынясена адпаведная пастанова (ад 18.X.32 г. № 92), аднак асаблівае ўвагі заслугоўвае ў ёй хіба толькі частка 1, пункту 6, якая гавора, каб **„Навучаньне Закона Божага, згодна існуючым законам і загадам, паўсюдна вялося ў мове роднай вучняў, на жаданьне выказанае іх бацькамі“.**

Зьмест гэнае часткі пастановы зьяўляецца ня новым, бо-ж тое самае ўжо калісь пастанаўлялася і Сьв. Сынодам (16.VI.1922, 14.XII.1922, 7.IX.1924) і было апавешчаным, як неабходнае, у адозве Мітрапаліта Дзяніса (1 жніўня 1928 г. „...а.а. законавучыцялі павінны вясьці лекцыі ў роднай мове..., калі па законам нашае дзяржавы ў народных школах навучаньне вядзецца ў роднай мове вучняў, ці калі прынамсі ім выкладаюць іх родную мову, дык тым больш неабходна навучаць дзяцей рэлігіі ў роднай мове...“). Аднак, як бачым, усе гэныя прыгожыя пастановы, можна сьмела сказаць, вымогі самога жыцьця, прынамсі дагэтуль аставаліся толькі на паперы. У практыцы, чыньнікі безпасярэдна залежныя ад Сыноду і Мітрапаліта Дзяніса, усе гэныя пастановы супакойна ігнаравалі і часта рабілася зусім адваротнае. Як сяньня будзе праведзена ў жыцьцё вышэй успомненая кастрычнікавая пастанова — цяжка адказаць, якраз дзякуючы балючай жыцьцёвай практыцы мінулых гадоў.

Таксама, з нагоду гэнае пастановы, варта адзначыць і тое, што ўсе іншыя захады (прадбачаныя там-жа) зьвя-

лічаньня рэлігійнае сьведамасьці народу, астануцца датуль бязплоднымі, пакуль ня будзе сумленна дацэненым значаньне ў жыцьці рэлігійным народу яго роднай культуры, яго імкненьні. Без належнае і консэквэнтнае ацэнкі гэтага, усе захады і пастановы будуць няшчырымі, разьлічанымі толькі на танны эфэкт, які карысьці ніякае не прынясець а разачараваньне і расклад яшчэ больш павялічыць.

Для нас, беларусаў, гэная пастанова зьяўляецца ў пэўнай меры эгзамінам нашае сьведамасьці. Калі на падставе тэй пастановы мы сяньня ня будзем дамагацца, каб Закон Божы для нашых дзяцей выкладаўся ў мове беларускай, а не расейскай і польскай, то мы толькі дапаможам нашым ворагам яшчэ лішні раз насьмяяцца над нашай цемнатою і нясьведамасьцю. Нявыкарыстаньне намі гэнае пастановы дасьць нашым ворагам падставы рабіць найдалей ідучыя дапушчэньні, а нават і ўчынкі. Таму, абавязкам кожнага мусіць быць дамаганьне, каб яго дзяцей вучылі рэлігіі ў мове роднай, а па другое — паведамляць аб гэтым сваіх суседзяў і ўплываць на іх, каб і яны выступалі з тым самым дамаганьнем.

## *Я веру...*

*Я веру нязломна, што прыдзе часіна,*
*Калі можна будзе нам ў матчынай мове*
*Маліцца і славіць Расьпятага Сына ..*

*Калі можна будзе прад пастырам любым*
*Душу адчыніці і боль свой сказаці,*
*Шукаць ў ім спадмоґі і сіл ад загубы. .*

*Калі можна будзе ў царкве памаліцца*
*Так ціха—ад сэрца, бяз болю і жалю,*
*Калі будзе пастыр натхненьня крыніцай...*

*Я веру нязломна, што час той ўжо блізка!*
*Што хутка ўжо хутка прыдбаем Дом Божы,*
*Што сэрца праклёны заґінуць з уціскам...*

С. САРОКА.

# Элеўфэрыянства і наша будучыня.

Слова „элеўфэрыянства“ паходзіць ад імя сучаснага Ковенскага архіяпіскапа Элеўфэрыя, які падчас праводжаньня аўтокэфаліі Прав. Царквы ў Польшчы (аддзяленьне яе ад Маскоўскае Царквы), рашуча супроць гэтага выступіў, пацягнуўшы за сабой значную частку духавенства, за што і быў змушаны пакінуць межы Польшчы. Сяньня аднак, слова „элеўфэрыянства“ не толькі абазначае выступленьне супроць аўтокэфаліі нашае Царквы, але яно сяньня зьяўляецца і назовам палітычнага кірунку, які для асягненьня сваіх мэтаў як сродак ужывае Царкву. Вельмі добра па гэнаму поваду недаўна адзін з польскіх публіцыстаў сказаў, што рэлігіяй для іх (элеўфэрыянства) ёсьць Масква, а Царква гэта толькі сродак. Так яно сапраўды і ёсьць. Вось-жа, як ведама, першай ахвяраю элеўфэрыянства была асоба трагічна згінуўшага (з рукі фанатыка-элеўфэрыянца) сьв. пам. Мітрапаліта Юрага. Справа была тут у тым, што Мітр. Юры, ўзяўшы пад увагу, што ўкраінцы і беларусы складаюць больш чым 90 прац. вернікаў Прав. Царквы ў Польшчы, хацеў яе жыцьцё абаперці зразумела на гэну большасьць. За гэнае, сапраўды хрысьціянскае, зразуменьне рэчы сьв. пам. Мітр. Юры і прыплаціў жыцьцём. Гэта быў пачатак. Наступнікам мітр. Юрага быў пакліканы сучасны нам Мітр. Дзяніс. Пачаткі кіраваньня Мітраполіяй Уладыкай Дзянісам былі авеяны жаданьнем прадоўжаньня распачатых працаў у кірунку свайго Вялікага Папярэдніка. Аднак у хуткім часе вакол асобы Мітр. Дзяніса знайшліся людзі верныя заветам слаўнага сказу, што «ў рускім моры сальюцца ўсе славянскія ручаі», і найлепшыя намеры контынуаваць лінію свайго папярэдніка ў мітр. Дзяніса відавочна пачалі загубляцца. Ці то пад уражаньнем лёсу мітр. Юрага, ці то з прычын іншых, досыць што адносіны Мітраполіі да большасьці вернікаў пачалі кардынальна зьменяцца. Калі часам яшчэ афіцыяльна і выказвалася зразуменьне патрэбаў большасьці вернікаў, то гэта ўжо быў толькі вымушаны палітычнымі абставінамі тактычны манэўр.

З вялікаю шкодаю для інтэрэсаў Царквы пачалася фафорызацыя, хоць і ўсяляк прыкрываная аднак заўсёды відавочная, нязначнае часьцінкі людзей, засьлеплена бараніўшых памёршае, для большасьці вернікаў арганічна варожае. І вось, гэны шкодны Царкве і Яе інтэрэсам, чужы

для большасьці вернікаў Яе, гэны толькі на нязначнай жменьцы вернікаў абапёрты кірунак, верны ідэям арх. Элеўфэрыя і „всеоб'емлющаго русскаго мора", і даў тое, што мы сяньня называем — элеўфэрыянства. Спаткаць яго можам усюды. Даволі ўспомніць некалькі фактаў! „Воскресное чтеніе", афіцыяльны мітрапалітальны орган Аўтокэфальнае Прав. Царквы ў Польшчы (Царквы аддзяліўшаяся ад Маскоўскае), як гэта не парадаксальна, і да сяньня друкуецца ў мове расейскай, хоць-жа мовай дзяржаўнай лічыцца мова польская, літургічнай мова славянская, мовай большасьці вернікаў (больш чым 90 прац.) мова ўкраінская і беларуская. „Слово", мітрапалітальны орган, за спагнаныя прымусова украінскія і беларускія грошы, друкуецца амаль усёцэла ў расейскай мове, з зусім аткрытай апотэозай „единой неделимой" і ня менш яўнай варожасьцю да ўсяго ўкраінскага і беларускага.

У зносінах з духавенствам ужываецца мова расейская. На Прадсаборныя паседжаньні, напрык. ад прав. беларусаў, неяк дзіўна трапляюць выключна асобы -- з Р.Н.О. („Русское Нацыональное Об'единеніе"), якія маюць гаварыць там ад імя нашага Народу! Або ўзноў успомніць толькі нашумеўшую хіратонію архім. Палікарпа, украінца па паходжаньню, супроць якога была ўзьняўшыся „самародная" бура пратэсту і закідаў. І вось, цяпер — перад намі ліст-загад (да аднаго пратаірэя ад асобы вельмі блізкай п. Vox'у з „Воскр. Чтен."!), які гэную „самароднасьць" буры і праўдзівасьць усіх робленых арх. Палікарпу і кампрамітуючых яго закідаў адпаведна высьвятляе. Словам, еп. Палікарп быў толькі чароднай ахвярай ненасытнага элеўфэрыянства. А як памятаем, непрызваітасьць апошняга тады дайшла да таго, што ўмешаліся нават улады сьвецкія, высылаючы з Валыні прат. Рагальскага.

Таксама зьяўляемся сьведкамі і таго, што Мітраполія да сяньня ня зьдзейсьніла амаль ні аднаго з постулятаў, якіх вымагала і вымагае жыцьцё, дзеля ўтрыманьня пры Царкве ўкраінцаў і беларусаў. Гэта ўсё і ёсьць сьляды элеўфэрыянства, ідучыя да цэнтру. Далей возьмем сярэдзіну, прыкл. Віл. Эпарх. Кіраўніцтва. „Никаких белоруссов нет!" адразу вітае нас арх. Хвядос. А за тым — уся мартыролёгія сьвяшч. Каўша, сьвяшч. Мысьліўца, сьвяшч. Букі, сьвяшч. Сяглюка, прат. др. Ружыцкага (якога змусілі перайсьці аж у вунію), псал. Ляшкевіча, псал. Нікіфароўскага, б. сэмінарыстаў Філіповіча і Гурыновіча і дзесяткаў іншых, цярпеўшых уціск (устаноўлены судова) за сваё паходжаньче. Узноў імкненьні Кансысторыі Віл., як зароўна яе розныя намінацыі на адказныя становішчы прат. Рагальскіх, Дзічкоўскіх і ім падобных, усім добра ведамы. Адбы-

ваючыяся пад уплывам гэных адзінак зьезды благачынных, сваю ненавісьць да ўсяго нерасейскага зусім няскрываюць (Зьезд Благ. Віл. Эпарх. 1—3 лютага 1932 г.).

Словам, уся дзейнасьць Віл. Эпарх. Кіраўніцтва—гэта адкрытае падтрымоўваньне элеўфэрыянства,доказы існаваньня якога ў Вільні мы маем **даслоўна** кожны дзень. Калі-ж цяпер перакінуцца на правінцыю, то і там прыхільнікаў і іспаведнікаў гэнага нашага няшчасьця мы знойдзем пад дастаткам. Але тут гэная справа па сваім вынікам яшчэ больш трагічнейшая! За вернасьць элеўфэрыянству мы бачым: **блачынным** былага камісара а сяньня сьв. Спрогіса: **місыянэрам** былага камісара а сяньня сьв. Балая; **благачынным** прот. Ігнатовіча, які ў свой час супроць аўтокэфаліі збунтаваў да 30 іншых духаўнікоў; **уласьнікам найвялікшага прыходу ў эпархіі**—абсольвэнта камісарскае школы а сяньня сьв. Зубовіча; мы бачым б. камісара а сяньня сьв. Цытовіча, які калісь так сумленна ладзіў мітынгі і страйкі. І усе гэныя людзі (а іх яшчэ больш ёсьць) за згоду прапагаваньня элеўфэрыянства — сяньня духаўнікі! Які ўплыў на народ, каторы ўсё мінулае памятае, гэныя сьвяшчэньнікі маюць, гаварыць ня прыходзіцца. Калі-ж да гэтага дадамо яшчэ іх усільнае зашчэпліваньне народу нялюбых яму ідэяў, то лёгка зразумеем, чаму на Беларусі сяньня па цэрквах падчас службы спаткаем толькі па некалькі чалавек. Зразумеем і тое, чаму ўсе захады каталіцтва, вуніятаў, сэктанства ў нашым народзе маюць такі добры пасьпех.

Ня дзіўным будзе і тое, чаму ў нашай вёсцы так застрашываюча шырыцца атэізм і маральны заняпад. Усе гэныя сілы сваю акцыю абаперлі на народныя гушчы і іх культуру. Сэктанты сваімі піанэрамі ўчынілі беларусаў, у сваю акцыю ўцягнулі беларускае студэнства і моладзь, выдаюць у беларускай мове кніжкі і часопісі, закладаюць дзіцячыя прытулкі і т. д. Вынікі гэтага відавочны! Па ўсей Беларусі, ў кожнай вёсцы маем гнёзды сэктанства, народ яго ўжо не баіцца, у сэктанства пачынаюць пераходзіць псаломшчыкі і царкоўныя старасты. Каталіцкая Царква беларускую моладзь гатуе дзесяткамі ў вуніяцкіх духоўных школах, закладаюцца дзіцячыя прытулкі, у беларускай мове стала выдаюцца часопісі, кніжкі, календары, адбываюцца зьезды і кангрэсы, на якіх самі ўжо беларусы падаюць спосабы здабыцьця народу. І народ вуніі перастае палохацца, цэлыя прыходы засьцярагаюцца, што могуць перайсьці ў Вунію (Залесьсе, Віл. Эпархіі).

Вось вынікі элеўфэрыянства на нашых землях. У той час, калі ўсе народ горнуць да сябе, належна шануючы яго самабытнасьць і культуру, элеўфэрыянства (вярхоў, ся-

рэдзіны і нізоў) у народзе, цаной адгону яго ад Царквы, намагаецца ўскрасіць памершае, чыста палітычнае, чужое і Царкве, і Народу. І вось, паўстае пытаньне нашае будучыні! Хіба трэба быць хворым оптымістам, каб бачыць яе яснай. Бо калі ў сучаснай Расеі справа Царквы знаходзіцца ў варунках страшных, то ў нас яшчэ страшней і гарэй. Там рэлігію і Бога глумам і зьдзекам загналі ў душы вернікаў, у іх сэрцы, у **нас Бога і рэлігію вытраўляюць назаўсёды з душаў і сэрцаў.** Там на Бога і Царкву паўсталі сілы цемры, у нас людзі пазорна змагаючыя гэту цемру. Вось чаму нам так шмат прыходзіцца гаварыць аб элеўфэрыянстве! Вось плады элеўфэрыянства, вось жахлівы вобраз нашае будучыні!

*С. Завейка.*

# Хрысьціянства на Беларусі.

(*Популярны гістарычны нарыс*).

Продкамі сучасных беларусаў былі славянскія плямёны — крывічоў, радзімічаў і дрыговічаў, якія ўжо ў старадаўных часох амаль нярозьніліся між сабой ані мовай, ані рэлігійнымі звычаямі.

З паловы IX стагодзьдзя сярод гэтых плямёнаў пачынаюць паўставаць дзяржаўна-грамадзкія арганізацыі. Вёскі лучацца ў воласьці, з гэтых-жа ўтвараюцца княжства. Цэнтрам кожнае воласьці быў горад, у якім зьбіралася заканадаўчая ўлада воласьці — народны сход ці веча, а таксама мясьцілася выканаўчая ўлада — жыў там князь. Найвялікшымі тагачаснымі воласьцямі ці княжствамі былі — Полацкае, Смаленскае і Тураўскае.

Спачатку незалежныя адна ад другой, воласьці гэныя па матывам палітычным пачалі з часам далучацца меншыя да большых, пакуль ня згуртаваліся ўсе каля аднаго палітычнага цэнтру—Полацку. Гісторыя Полацкага Княства зьяўляецца найбалей сьветлым пэрыядам гісторыі Беларусі.

Цераз беларускія і ўкраінскія землі ў старадаўныя часы пралягаў так званы „Вялікі вадзяны шлях“ ад варагаў да грэкаў, па рэчкам — Зах. Дзьвіна, Дняпро, Прыпяць, Бярэзіну, Сож і інш. Па гэнаму шляху і беларускія купцы

спушчаліся да Чорнага мора і гэтым морам заплывалі да Царгораду (Канстантынопаля). Па ўзьбярэжжах рэчак былі склады рожных тавараў, якія ішлі ад грэкаў да беларусаў і далей да варагаў і наадварот. Загадчыкамі і старшынамі грэцкіх складаў былі грэкі. Праз гандлёвыя зносіны з грэкамі, якія тады ўжо былі хрысьціянамі, на землях нашых продкаў пачало зашчапляцца і распашырацца хрысьціянства, усходняга ці візантыйскага абраду. Гэткім чынам, яшчэ за доўга да хрышчэньня Кіяўлян сьв. Уладзімерам, хрысьціянства было ўжо распашырана сярод нашых продкаў; на Беларусі нават былі ўжо тады цэрквы, як у Полацку і Тураве. Пасьля хрышчэньня Кіяўлян хрысьціянства ў нас пачало пашырацца ў больш хуткім тэмпе, хоць-жа яно і не змагалася за сваё быцьцё агнём і мячом, а прыймалася народам дабрахвоць, бяз ніякае прынукі з боку князёў ці чужнікоў.

З прыняцьцем хрысьціянства на Беларусі пачала пашырацца і асьвета. Каля Царквы сталі гуртавацца найбалей адукаваныя інтэлігэнтныя ў той час людзі. Рэлігійным і культурна-асьветным цэнтрам становяцца манастыры. Зразумела, духавенства павінна было быць пісьменным, а дзеля гэтага пры манастырох пачалі закладацца школы, у якіх дзеці спачатку вучыліся на сьвяшчэньнікаў а пасьля і ў іншых кірунках. Пры манастырох разьвіваецца таксама і пісьменнасьць літэратурная. Для Багаслужэньняў патрэбны былі адпаведныя кніжкі. Першыя царкоўныя кнігі, рукапісна кірылаўскія, перакладаныя з грэцкае мовы, былі атрыманы ад прыехаўшых з паўдня духаўнікоў. Кнігі гэныя былі з часам перакладзены з грэцкае на стара-баўгарскую ці царкоўна-славянскую мову. Беларускія князі і духавенства, навучыўшыся чытаць іх, пачалі ўжо і перапісываць а нават і перакладаць іх. Вось-жа галоўнымі цэнтрамі перапіскі кнігаў і былі манастыры. Такім чынам, дзякуючы хрысьціянству, зьявілася і пашыралася на Беларусі пісьменнасьць.

Стара-баўгарская мова, у якой пісаліся першыя славянскія кніжкі, была блізкай да тагачаснай мовы беларускай, дзеля чаго кніжная царкоўна-славянская мова вельмі лёгка выкарыстоўвалася ў пісьменнасьці беларускай. Пісалі тады славянскімі літарамі, якімі цяпер друкуюцца царкоўныя кнігі. Пісьмо гэнае прыдумаў адзін з славянскіх апосталаў сьв. Кірыл, чаму яно і да гэтае пары завецца кірылаўскім або «кірыліцай.“

Славянскія апосталы сьв. браты Кірыл і Мяфодзі паходзілі з места Салонікаў. У часы „Вялікага праходу народаў“ частка беларускага племяні дрыговічаў перайшла на Балканы і асела якраз каля Салонік. Грэцкія пісьменьнікі назвалі іх „дрыгувітамі.“ Сьв. Кірыл і Мяфодзі ўжо змалку

суткнуліся з дрыгувітамі і магчыма, што тады і навучыліся ад іх славянскае мовы.

З разьвіцьцём старабеларускае мовы і пісьменнасьці беларускія перапісчыкі і перапісчыцы пачалі прыўносіць пры перапісываньні кнігаў асаблівасьці беларускае мовы. Да XIII стагодзьдзя гэтая старабеларуская мова, часта пераплеценая царкоўна-славянізмамі была агульна-літэратурнай мовай для усіх адукаваных таго часу беларусаў.

(*Працяг будзе*).

**Р. Ш.**

# Бязбожнік.

Астап варочваўся з боку на бок, але заснуць ніяк ня мог...

За вокнамі патрэсківаў сухі, калядны мароз. Серабрыста-сіняватыя касулі месяца праз замерзшыя шыбы ў сумным задуменьні пазіралі ў хату. Астап цяжка ўздыхаў... І ліха ведае, што да яго сяньня прычапілася! Ну проста здаецца нехта душыць яму грудзі. Эх, відаць усё праз гэную дурную Алёнку. Прычапілася надовячы як тая смала— Астап ды Астап, пойдзем сяньня ў начы на вячэрню ў царкву, заўтра дзень калядны, вялікае сьвята! Глядзі Астапка, то яшчэ нас Бог пакарае... Калі ты мяне любіш, пойдзем Астапка! Але Астап зразумепа на гэта не згадзіўся. Калі дурныя ўжо нашы старыя і бабы, дык я ўжо ня буду саромiць сябе. Мінулі ўжо тыя часы, калі што няздарыцца, дык зараз—гэта Бог пакараў. Я сам сабе цар і бог, ніякіх яго караў не баюся!

Калі-ж Алёнка пасьля гэтага расплакалася, Астапа такая агарнула злосьць, што нічога ёй больш не сказаўшы, плюнуў і пайшоў.

Ляжыць Астап і думае, — ліха яго знае, мо' і блага зрабіў, што гэтак узлаваўся! Шкада дзяўчыну... Але сама вінаватая, ня трэба быць гэткай дурной! Э, заўтра прыжму да сябе і ўзноў будзе сьмяяцца. З бабамі гэтак заўсёды... Найгорш тое, што неяк вось на сэрцы не лягчэе! Мо' якая хвароба прыстала, ці што?

І Астап яшчэ раз перавярнуўся, аж застагнала пад ім лаўка. Але сон ўсё неяк ня йшоў, хоць-жа і зачыняў вочы,

і страўся ўжо аб нічым нідумаць... Ужо хацеў уставаць, каб ісьці прайсьціся па марозе, ці што, як раптам пачуў глухі, моў разьбіты марозам, царкоўны звон. Зараз па ім — яшчэ раз... яшчэ раз.. яшчэ раз... ну і пачалося! Астап здавалася ад злосьці пачне равець... На вуліцы пачуліся галасы сялян, ідучых у царкву, звонікі едучых санак, брэх сабакаў... Дзед першы пачуў звон і пачаў будзіць хатніх. Хутка ў хаце падняўся такі гармідар, што Астап ужо ня мог стрываць і так у голас рагануўся, ад сэрца рагануўся, аж бацька і той узлаваўся.

— Ляжы дурніла і маўчы, ані то ідзі з хаты! Цябе ніхто не чапае, і ты нікога не чапай. За шмат вас цяпер такіх разумных дурняў разьвялося! Боўдзіла бязглуздая...

Астап зацяў зубы, накрыўся з галавой кажухом і ўжо больш не адазваўся. Ну-ж, калі дажыве сваю сямейку і сам стане гаспадаром — калом папрабівае ўсіх, калі не паслухаюць яго і ў начы будуць выбірацца на нейкія камэдыі.

Тымчасам бацька запрог каня, маці паабкручывала малодшых і ўсе рушылі ў царкву. Астаўся толькі Астап і стары ды хворы дзед на печы. Але дзед ня спаў... Астап пачаў прыглядацца, што ён там робіць. А дзед, ледзь кратаючыся, пачаў апранацца. Тады стаў на калены, ды зьвярнуўшыся да вабразоў у куце, пачаў нешта ціханька шаптаць. Глядзіць Астап, а дзед моліцца і плача. —„Божанька мілы, будзь міласьціў нам грэшным! Божанька добры, даруй нам грахі нашы!"

Астап ня ведаў што рабіць... Ругнуць дзеда, неяк шкада было ды і сорам. Дзед-жа і сапраўды яго нечапае... А ўрэшце чаго ён ад іх хоча? І тут Астап задумаўся... Іх ужо ўсёроўна не пераканаеш, бо-ж гэтак славяць свайго Хрыста ўжо ня першы год. Але чаго ён, Астап, хоча ад Нарадзіўшагася Дзіцяці! Хрыстос, як кажуць, радзіўся гэтакім нешчасьлівым як і мы ўсе, Бацькі Яго нават ня мелі свайго прыпынішча, каб дзе на ночку супачыць. Ён-жа, за сваю любоў да нешчасьлівых і пакрыўджаных, якраз цярпеў усё жыцьцё і нават за гэта быў расьпяты. Хрыстос-жа першы сказаў, што ўсе людзі роўныя між сабой, браты сабе... Дык чаго ён, Астап, гэтак зьненавідзеў Хрыста? Што Ён яму зрабіў...—Астап перавярнуўся на другі бок!—Німа над чым думаць, усё гэна дурманства людзей ды толькі! Ніякіх багоў няма... Гэтак разумныя, вялікія людзі даказалі.—Але цікава, ізноў думаў Астап, чаму гэтыя людзі не даказалі дагэтуль, што няпраўда, што Хрыстос быў памёршым і ўскрос.... Або ўзноў, чаму гэта прайшло ўжо столькі сотак

гадоў, было гэтулькі вялікіх людзей — а ўсё Хрыста славяць і славяць, хрысьціян шторaз больш ды больш...

— Божанька даруй нам грэшным! — шаптаў бяззубы дзедка, пад радасныя званы, што несьліся ад царквы.

Астап пачуў, як нешта расьпірае яму нутро, як штосьці бразгае ў вушох. Далей вытрымаць у хаце ня мог. Апрануўся і як шалёны вырваўся з хаты. Але куды ісьці! Хіба пайсьці паглядзець, неяк здалёк, што робіцца каля царквы. Адно, як пабачаць Сымон і Тодар,—даў-жа ім слова, што ня пойдзе ў царкву...А ўрэшце, што яны мне, ці я іх парабак, што хачу тое раблю! Магу-ж прайсьціся каля царквы... Недалёка царквы пабачыў за вуглом цікаючагася Сымона. Вакол царквы зьбіралася што раз больш людзей. Астап пачуў як яго пачынае трасьці, як нейкая непераможная сіла цягне ў царкву. Зайшоўся... У адным куце згорбіўшыся стаяў Тодар. У другім—стаяла на каленах Алёнка і ціха плакала. Крыху далей, пабачыў бацьку а ў вачох яго нейкія серабрыстыя расінкі. Астап сунуўся да Алёнкі...„Хрыстос раждаецца...“ грымнуў радасна вясковы хор.

Побач Алёнкі на каленах стаяў Астап...

П. З.

# ТРЭБА...

Перадусім, трэба раз назаўсёды зразумець тое, што беларусы гэта ані неразлучная часьціна народу расейскага, ані польскага. Сучасная гісторыя, сапраўды шукаючая як і кожная навука праўды, усялякіх Ілавайскіх і ім падобных людаедаў даўно адкінула, як ня вытрымоўваючых найменшае крытыкі. І гэта зразумела, — ашукаць навуку і гісторыю можа паважыцца або бязкультурны прафан, або чалавек, падобны аднаму старадаўнаму пэрсыдскаму цару, які пугай супакоіваў і караў мора. Урэшце, калі да гісторыі дадамо вывады прэгісторыі, археолёгіі, антрополёгіі і этнографіі (вуч. ням. Кассінна!) ды апрача таго прымем пад увагу цікавыя і глыбокія спасьцярогі пэдагогікі (асабліва — засновы т. зв. концэнтрацыйнага пункту дыдактыкі), то трэба сказаць сабе, што беларусы гэта самабытная этнічная адзінка,

акрэсьленага, собкага характару індывідыум, маючае гэнаму характару адпаведна ўласьцівую культуру духовую і матэрыяльную, мову і структуру псыхікі. Затым трэба зразумець тое, што паняволеньне народу і стрымоўваньне яго эволюцыйных праяваў разрастаючагася жыцьця духовага зьяўляецца ганьбаю не для народу паняволенага а для паняволюючага. Хрыстос паняволеньне, уціск і крыўду слабейшага зьнёс. Палітыкі і інстынкт людаедцтва гэта можа не прызнаваць. Хрысьціянства гэта мусіць прызнаць, бо гэта яго падстава жыцьця, бо цераз прызнаньне ўсіх людзей за роўных, цераз любоў да ўсіх бліжніх хрысьціянства ёсьць хрысьціянствам, інакш яно будзе маральным банкротам, калі ня другім Пілатам Хрыста і Бога. Таму, калі палітыкі з рознай сілай людаедцкіх апэтытаў нас беларусаў ня прызнаюць за людзей, Царква тым больш шчыра павінна нас прыгарнуць да сябе і абласкаць, як пакрыўджаных і нешчасьлівых, а для якіх перадусім Хрыстос і зыйшоў на зямлю, для якіх цярпеў і даўся расьпяцца. Пасьля гэтага трэба зразумець, адкінуўшы варожае Царкве людаедцтва, што мы ня толькі нешчасьлівыя, але нам пагражае сьмерць. Усходняя Беларусь здаптана ботам чырвонага атэізму. Маладое пакаленьне там ужо ня ведае цяплыні і жыцьцятворчых сілаў Царквы. Праваслаўная Зах. Беларусь цэрквы свае яшчэ мае, але вернікі яе з кожным днём таюць як сьнег на вясну. Наша вёска сяньня знае і вітае ўсялякія камунізмы, анархізмы, нігілізмы, атэізмы, што раз ахватней спаглядае і ідзе за голасам вуніі, за модным поклічам сэктаманства, і толькі праваслаўны сьвяшчэньнік тут адзін бязрадны. Вось-жа, трэба зразумець, што гэны вобраз ёсьць сапраўдны, што афіцыяльныя запэўненьні — „всё в порядку" не праўдзівы, як няпраўдзівымі былі падобныя запэўненьні ў праддзень недаўнае расейскае рэвалюцыі, падчас якое найбольш згінула і гінець перадусім духаўнікоў. Трэба-ж нарэшце палажыць мяжу сьляпой безадказнасьці і зразумець, што за нашу духовую сьмерць будуць адказываць перад гісторыяй не беларусы, а перадусім іх духоўныя выхаваўцы. Тымбольш, што на кіраўніцтве жыцьцём праваслаўным у Зах. Беларусі лёг вялікі абавязак і наказ прыгатаваньня моцных і здаровых кадраў будучых адбудоўнікаў сяньня даптанага і разьдзіранага Праваслаўя ў Усх. Беларусі. Тымчасам, у нас ня толькі не працуецца над гэнай падгатоўкай, але да нас сьмерць Царквы зьбліжаецца яшчэ ў больш хуткім тэмпе чым там. Вось-жа, гісторыя апотэозаваць і рабіць гэроям забойцу сьв. пам. мітр. Юрага ня будзе, як ня будзе і ўслаўляць забойцаў народу і Царквы, бо палітыка і людаедцтва гэна адно, а Хрысьціянства і пастыра-кіраўніцтва другое. Таму, каб унікнуць нямінуемага

кляйма гісторыі і запабегчы сьмерці ўвераных пад апеку мільёнаў, трэба неадкладна, гаворачы канкрэтна, правесьці наступнае.

1. Духоўныя Кансысторыі ў Зах. Беларусі павінны сумленна і фактычна быць абсаджаны прынамсь на палову беларусамі, як народ свой знаючымі і з ім зьвязанымі.

2. Прадстаўнікі на Прадсаборных Сабраньнях і Саборы ад народу беларускага павінны быць сумленнымі беларусамі, бо толькі гэткія патрапяць выказаць жывую сапраўднасьць, яе пахібы і лекі на іх.

3. Навука існцінаў Хрыстовых (у царкве і школе) павінна вясьціся ў мове, якую вернікі ўспрынялі з малаком матчыных грудзей.

4. Замест тысячаў злотых, трачаных на нейкае нехрысьціянскае „Слово", займаючаяся дзяцiннымі байкамі ды няпрыстойнай лаянкай, выдаваць для народу ў яго мове прынамсь хоць месячнік, што і карысным будзе для Царквы і народу, і ўзьніме прэстыж выхаваўцаў.

5. Прыгарнуць і выкарыстаць моладзь, падтрымаць ведамых народу пастыраў і з іх помачу наладзіць фактычнае місыянэрства, гэткім чынам навязываючы інтымны кантакт вучыцеляў з народам.

Словам, трэба альбо прыняць гэныя наказы жыцьця, альбо іх адкінуць і працягнуць руку людаедцтву. Трэцяй альтэрнатывы тут няма!

С. С.

# ХРОНІКА.

— У верасьні мін. году, згодна з загадам Віл. Дух. Улады, сьв. А. Коўш выехаў у Норыцу (Пастаўскага пав.), дзе абняў настаяцельства тутэйшае царквы.

У дзень ад'езду на вагзале прадстаўнікі ад бел. прав арганізацыяў, моладзь і студэнства шчыра разьвітываліся з любым пастырам, якога запэўнялі, што — вытрымаюць і перамогуць. Насельніцтва Норыцкага прыходу і суседніх сьв. А. Каўша прыняла з належнай пашанай і любоўю, добра ацаніўшы яго адданасьць Царкве і народу, аб чым сьведчаць лісты сялян з мясцоў да нас і іншых рэдакцыяў.

— У палове верасьня мін. году адбылася надзвычайнае паседжаньне сяброў Урадаў Бел. Прав. Групы Студэнтаў У.С.Б., Бел. Прав. Сябрыны Работнікаў у Вільні, Хаўрусу Бел. Прав. Моладзі ў Вільні, Аб'еднаньня Прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў Віл. Эпархіі. Між іншым — пастаноўлена выслаць сьв. А. Каўшу, ад кожнай з вышэй пералічаных арганізацыяў, адпаведныя прывітаньні, што і было зроблена Падобныя прывітаньні высланы ад імя нашае рэдакцыі, а таксама ад Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту і Рэдакцыі „Сьветач Беларусі."

— 22 кастрычніка мін. году ў Крывіцкім Гарадзкім Судзе адбылася расправа над А. і В. Антановічамі, Хільманам і інш., абвінавачанымі сьв. Спрогісам за тое, што тыя запелі ў царкве «Отча Наш.» Гэта-ж, па думцы сьв. Спрогіса, зьяўлялася „нарушэньнем супакою" ў царкве. Суд пакараў Антановічаў па 3 месяцы арышту.

Словам, дажыліся мы да таго, што за малітвы ў царкве пачынаюць засуджываць з ініцыятывы прав. сьвяшчэньніка.

— У канцы мін. году памёр фактычны кіраўнік Віл. Эпархіі прат. Кушнёў. Хаўтурныя прамовы сказалі прат. Дзічкоўскі і сьв. Балай. Над магілай гаварыў адзін з афіцыяльных элеўфэрыянцаў (адлучаны ад нашае Царквы!), які зазначыў, што з памёршым працавалі сумесна для нейкай ідэі да апошняй хвіліны. Калі пасьля хаўтуроў адна асоба зьвярнулася да арх. Хвядоса з запытаньнем, чаму ён не запярэчыць гэтаму, бо-ж гэта кампрамітуе і памершага і арх. Хвядоса, апошні адказаў — „відно так нужно."

— У канцы мін. году прыбыў у Вільню, ведамы з выступленьняў супроць епіскапа Палікарпа на грунце шавіністычнае безаадказнасьці, прат. Рагальскі, выселены з Валыні ўладамі сьвецкімі. Арх. Хвядос гэнага 1000 проц. „исполина русской мысли" прыняў вельмі шчыра. Пачаліся стараньні аб правядзеньні яго ў Віл. Кансысторыю, аб назначэньні на прафэкта віл. сяр. школаў,—аднак гэта так лёгка не ўдалося. Тады зрабілі яго місыянэрам Віл. Эпархіі. Ясна, місыя прат. Рагальскага зводзіцца перадусім да прапаганды „единой неделимой." Характэрна тое, што місыянэр аўтаматычна ўходзіць у Прадсаборчае Сабраньне! Палітыка Варшавы і Вільні больш чым відавочна!!!

— У канцы студзеня г. г. Улады Віл. Прав. Дух. Сэмінарыі падалі да ведама вучняў, што расейская мова згэтуль ужо не зьяўляецца прадметам абавязкавым. Вучыць яе могуць вучні толькі па свайму жаданьню.

—У пачатку лютага г. г. у Вільні адбыўся зьезд благачынных Віл. Эпархіі. Старшынёй зьезду быў сам арх. Хвядос (у папярэднія гады пам. прат. Кушнёў), віцэ-старшынёй —прат. Дзічкоўскі. Зьезд благачынных нарэшце прызнаў за неабходнае ўжываньне ў пропаведзях беларускае мовы, на што нават згадзіўся быццам і сам арх. Хвядос. Калі сапраўды гэныя намеры шчырыя — мы толькі вітаем!

— Як ведама, ў Вільні існуе Эпарх. Місыянэрскі Камітэт. Вось-жа, на адным з паседжаньняў гэтага Камітэту было запрапанавана, каб увесьці ў яго каго колечы з тэолёгаў беларусаў, каб гэткім чынам працы Камітэту былі больш прадуктыўнымі. Аднак, супроць гэтага ведамыя Вільні і беларусам прataірэі начале з прат. Рагальскім рашуча выступілі, не жадаючы „уводзіць палітыку на грунт царкоўны". Увыніку справа місыянэрства даручана гэткім „компэтэнтным" адзінкам, як прат. Дзічкоўскаму, Рагальскаму і інш. падобным ім, адносіны якіх і знаёмасьць беларускае душы усім добра ведамы. Тут мімаволі на думку прыходзіць адзін выпадак. Каталіцк. Дух. Улады на вуніяцкую беларускую часопісь „Да Злучэньня" налажылі абавязак прэвэнцыйнае цэнзуры. Справа гэная даручана кс. Ушылле, які атрымаўшы гэную часопісь, відаць нічога не зразумеўшы там, зьвярнуўся па „філёлёгічную" параду ў справе беларускай мовы да свайго слугі. Словам, каб не дапусьціць беларуса, лепш ужыць лякая, альбо як з нашым Камітэтам — прат. Дзічкоўскага або прат. Рагальскага, якіх ад аднаго слова беларус адразу хапае трасца.

Што-ж, ёсьць чым хваліцца!

— Пасьля сьмерці прат. Кушнёва паўстала пытаньне каго прызначыць на месца яго ў Віл. Кансысторыю. Мітраполія быццам, згодна з пастановай Сьв. Сыноду, вызначыла прат. Грамадскага (сьвяшч. з Горадзенскае Эпархіі, брата арх. Аляксея). Арх. Хвядосу кандыдатура гэнага пратаірэя на сябру Кансысторыі чамусьці не спадабалася. І вось у Вільні, нібы з уласнай ініцыятывы, сабраліся царкоўныя старасты (а як нам ведама — і нястарасты!) і пастанавілі нікога ня прыймаць з чужое эпархіі. Бязумоўна, уся гэна справа чырвонымі ніткамі шыта!

Справа тут у тым, што арх. Хвядос у прат. Грамадскім бачыць чалавека, каторы можа пралажыць дарогу ў Вільню арх. Аляксею. Уладыка Аляксей, як вядома, лічыцца кіраўніком незалежным ад ніякіх уплываў. Вось-жа гэта і напалохала якраз прат. Дзічкоўскіх, Рагальскіх і інш., якія прызвычаіліся кіраваць сваім архірэям. Словам — тут і сход „старастаў“ з наіўнай пастановай (бо-ж прат. Рагальскі таксама з чужой эпархіі, а тымчасам яго сунуць і на прэфэкта і ў кансысторыю, зрабілі-ж яго эпарх. місыянэрам), тут зараз і пажаданьні зьезду благачынных, тут і перасьцярогі прат. Грамадскаму, што ў Вільні блага, што прыход царквы сьв. Міколы нікуды, запушчаны. Аднак арх. Хвядос быў змушаны кандыдатуру прат. Грамадскага выставіць. Уложана ліста кандыдатаў на сябру кансысторыі ў наступным складзе: прат. Дзічкоўскі (насьледнік прат. Кушнёва), прат. Рагальскі, прат. Баталін (з Гарадка) і нарэшце толькі прат. Грамадскі.

Для нас беларусаў кандыдатуры трох першых асобаў не магчымы да прыняцьця, і з гэтым мы будзем змагацца! Людзей з „слаўным“ прошлым мы ня прымем.

—Сябра Кансысторыі прат. І. Краскоўскі, стары і хворы чалавек, пасьля сыстэматычна робленых яму няпрыемнасьцяў з боку расейскага шавіністычнага элемэнту ў эпарх. кіраўніцтве, цяжка расхварэўся і ляжыць разьбіты паралічом у Клініцы Унівэрсытэцкай.

Цікава, што перад наскокамі (часта замаскаванымі, але відавочнымі) «радетелей» элеўфэрыянства як прат. Рагальскі, прат. Дзічкоўскі і інш., бязсільны ў „Неподлеглэй Польсцэ“ і самі палякі, ня могучы абараніць свайго сабрата паляка (за якога сябе ўважае прат. Краскоўскі)! Ну-ж і часы і парадкі!!!

# Голас Народу.

**Вёска Ажуны, Дунілаўскае гм. Пастаўскага павету.**

Ня так даўно ў Норыцкі прыход прыехаў сьвяшчэньнік беларус а. А. Коўш, які пропаведзі ў царкве пачаў гаварыць на беларускай мове. Усім гэта вельмі спадабалася і народ пачаў лічна зьбірацца, каб паслухаць пропаведзі свайго пастыра. Не спадабалася гэна толькі іншым нашым „пастырам", каторыя парабіліся на такіх пасьля ліквідацыі Балахоўшчыны. Адзін раз, калі сябра царкоўнага камітэту Ажунскага прыходу С. Кейзік папрасіў тутэйшага сьвяшчэньніка, каб той запрасіў на ўрачыстасьць царкоўную ў Ажуны а. А. Каўша з Норыцы, дзеля таго, што народ вельмі хоча паслухаць свайго пастыра, дык сьвяшч. Ажунскае царквы а. Гаврилов адказаў: „Это політік, а не пастыр!". На гэта грам. С. Кейзік запратэставаў і тады сьвяшч. Гаврилов сказаў, што аб гэтым падумае. Вось-жа з гэнае прычыны хацелася-бы мне сказаць падобным „пастырам по неволе", каб яны ня думалі аб тым, ці прасіць да сябе сьвяшчэньнікаў беларусаў ці не, але каб падумалі аб тым, што ім прыдзецца рабіць, калі сам народ беларускі папросіць да да сябе сваіх пастыраў беларусаў! Бо здаецца, што час на „военные разгулы" ужо мінуўся, а дзеля гэтага ня будзе тады чым заняцца нашым сучасным „пастырам".

**Адзін з пасомых.**

# Пошта.

**а. Яз. Р. (Осовец каля Граева).** За прывітаньне дзякуем. Высылаем.

**К. Сьветавастокаў (Трабы, Валож. пав.).** Высылаем. Просьбу спаўняем.

**І. Матэлёнак (Леонполь, Брасл. пав.).** Высылаем. Просьбу спаўняем.

**І. Ключнік (в. Максімаўка, пошта Радашкавічы).** Высылаем.

**П. Гаранька (м. Горадня).** Дзякуем вельмі. Высылаем.

**а. Е. Б. (пошта Смаргоні).** Высылаем. Чакаем.

**Бел. Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Гурток у м. Будславе, Вялейск. пав.** Просьбу спаўняем. Аб пашырэньні нашае часопісі просімо.

**Адв. А. Бычкоўскі (Варшава).** Атрымалі. Высылаем.

Рэдактар І. Балтручак. Выдавец Я. Красоўскі.

